# ПРАМОВА М. А. ШОЛАХАВА

## НА XXII З'ЕЗДЗЕ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ САВЕЦКАГА САЮЗА



Масква. XXII з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.
**На здымку:** дэлегаты з'езда пісьменнікі Паўло **Тычына** (злева) і Пятрусь **Броўка** ў перапынку паміж пасяджэннямі.
Фота **Э. ЕЎЗЯРЫХІНА.** Фотахроніка ТАСС.

Дарагія таварышы дэлегаты! Мне думаецца, я выкажу агульную думку, калі скажу, што ў гэтыя знамянальныя дні з'езда, калі мы прымаем новую Праграму нашай ленінскай партыі, само жыццё наша, жыццё ўсяго савецкага народа, стала напоўнена нібы асаблівым і новым гучаннем. Быццам свежы, падбадзёрлівы вецер падзьмуў нам у твар, адкрыў перад позіркам далёкія сінеючыя, заклікаючыя да сябе далі, і лёгка, і глыбока ўсімі грудзьмі дыхаецца, і выразна відаць абрысы той жаданай будучыні, да якой мы, безумоўна, прыйдзем праз дваццаць год. **(Бурныя апладысменты).**

Вельмі ўжо велічная і высакародная Праграма, усім сваім зместам і сутнасцю накіраваная на шчасце і радасць працоўнага чалавецтва!

Як жа тут не сказаць ад усяго сэрца дзякуй тым, хто працаваў над стварэннем гэтай Праграмы, тым, хто мары і доўгія спадзяванні народа ўвасобіў у выразна пастаўленую задачу, па-ленінску прадбачачы нашу блізкую і далёкую, але такую запаветную будучыню! І перш за ўсё як не сказаць такое дзякуй галоўнаму творцу Праграмы — нашаму Мікіту Сяргеевічу Хрушчову! **(Бурныя апладысменты).** Я сказаў бы Вам, дарагі Мікіта Сяргеевіч, і больш цёплыя словы, але асабістая дружба з Вамі, мая высокая павага да Вас, разумееце, неяк стрымліваюць мяне **(смех, бурныя апладысменты),** у дадзеным выпадку з'яўляюцца яўнай перашкодай. А потым, Вы ж ведаеце, што мужчынская, сяброўская любоў заўсёды крыху маўклівая. **(Смех, бурныя апладысменты).**

Як падумаеш, што пераадолела, што здзейсніла наша магутная партыя і што яшчэ належыць ёй здзейсніць, чэснае слова, нават камяк падкатваецца пад горла: да чаго ж усё-такі здорава! **(Бурныя апладысменты).** І калі шчыра гаварыць, дык іншы раз не-не ды і заганарышся цішком сваёй партыяй, сваім савецкім народам, і з міжвольным захапленнем і грубаватай ласкавасцю, якая ўжываецца пры абыходжанні з блізкімі, скажаш сам сабе: «Ну, і таленавітыя ж вы, мілыя мае людзі! Ну, і моцныя ж, чэрці! Ва ўсіх адносінах моцныя!» **(Бурныя апладысменты. Смех).**

Усе мы ведаем, што крутую вышыню на шляху да камунізма падрыхтавана ўзяць нам гісторыяй. Добра ведаем і тое, што часам і цяжка будзе ў дарозе, і трудна, і не раз перасохне ў роце ад напружання. Але затое якія нябачаныя дагэтуль далягляды адкрыюцца з вяршыні гэтай вышыні і з якой ажыўляючай і гаючай крыніцы давядзецца напіцца стомленым, але, як заўсёды, бадзёрым спадарожнікам! **(Бурныя апладысменты).**

А што датычыць нялёгкага шляху, дык ён не толькі цяжкі, але і ганаровы і вялікі па свайму сапраўды сусветнаму значэнню, як вялікая мэта, да якой ідзём. Але ж вялікаму народу — і вялікі шлях, як вялікаму караблю — вялікае плаванне! **(Працяглыя апладысменты).**

І ніякія нягоды і цяжкасці не застрашаць нашых мужных людзей, якіх вядзе бясстрашная і мудрая партыя камуністаў. Мы прыйдзем да камунізма, не зважаючы ні на якія падкопы ворагаў, наперакор сумнаму ныццю малавераў. Зарукаю гэтаму тое, што дарогу ў будучыню пракладвае дзесяцімільённы камуністычны авангард нашага выдатнага ў працы і ратнай справе народа! **(Бурныя апладысменты).**

Што егіпецкія піраміды, што іншыя помнікі старажытнасці — нікчэмныя патугі людзей мінулага пакінуць пра сябе памяць у гісторыі чалавецтва! Усё гэта — пыл і тлен, усё з часам знікне. А вось тыя, хто пабудуе на зямлі камунізм, тым самым сапраўды ствараць непарушны помнік, не падуладны ні часу, ні сілам прыроды, такі ж вечны ў стагоддзях, як і свяшчэннае для нас імя Ленін. **(Бурныя апладысменты).** І пры жыцці слава ўсім будаўнікам камуністычнага грамадства! Слава і тым зарубежным братам, сябрам і таварышам, якія справаю і словам, не вагаючыся і не крывячы душою, дапамагаюць нам тым, што ідуць наперад і наперад глядзяць! **(Бурныя апладысменты).**

Калі думаеш аб партыі, аб сябрах і таварышах па партыі, міжволі прыходзяць на памяць словы Гогаля. Памятаеце, у аповесці «Тарас Бульба» стары Тарас перад боем пад горадам Дубна так гаворыць, звяртаючыся да запарожцаў: «Няма вузаў святейшых за таварыскасць! Бацька любіць сваё дзіця, маці любіць сваё дзіця, дзіця любіць бацьку і маці. Але гэта не тое, браточкі: любіць і звер сваё дзіця. Але парадніцца сваяцтвам па душы, а не па крыві, можа адзін толькі чалавек».

Далі-бог жа, добрыя словы! **(Бурныя апладысменты).** Нас, камуністаў, парадніла ідэя Маркса—Энгельса—Леніна, ідэя, за якую не на жыццё, а на смерць змагаецца Камуністычная партыя, і для нас няма нічога святейшага за вузы гэтай партыйнай таварыскасці! Мы таксама любім і дзяцей нашых, і жонак, але, як сказаў Тарас, «Гэта не тое, браткі!» **(Смех. Бурныя апладысменты).** І няхай на нас не крыўдзяцца ні дзеці нашы, ні жонкі. Нічога не зробіш, прыйдзецца ім проста прымірыцца з гэтай акалічнасцю, толькі і ўсяго. Але вось тут і атрымліваецца ў мяне замінка... Ясная справа, у першую чаргу пакрыўдзяцца нашы жонкі за тое, што вузы партыйнай таварыскасці для нас святейшыя, чым вузы, якія яднаюць з імі. Напэўна, я дапусціў некаторую неабдуманасць, а магчыма, нават і памылку, адвольна ўпамянуўшы пра жонак. Бо ў Тараса ж пра іх нічога не сказана. **(Смех. Бурныя апладысменты).** І цяпер мне, як чалавеку, які раскапаў гэтую цытату з неўміручага твора Гогаля, відавочна, першаму давядзецца сёння прыняць на сябе сямейны ўдар. **(Смех. Бурныя апладысменты).** Але, аднак, я не баюся.

**Хрушчоў.** Міхаіл Аляксандравіч, калі Ваша жонка, Марыя Пятроўна, дазволіць, дык я згодзен падтрымаць Вас, каб змякчыць, так сказаць, самартызаваць удар, калі з яе боку ён усё ж будзе накіраваны супраць Вас. **(Апладысменты).**

**Шолахаў.** Аднак я не баюся, таму што моцна веру ў ваша высокае спачуванне, дарагія жанагыя браты і таварышы **(смех, бурныя апладысменты)** і—натхнёны ім—гатовы на ўсе самыя цяжкія выпрабаванні, што чакаюць мяне ля сямейнага ачага. Толькі не забудзьцеся сёння успомніць мяне добрым словам, а больш мне нічога не трэба! **(Смех. Бурныя апладысменты).**

Але па-рознаму разумеем пачуццё таварыскасці мы і капіталісты. Жывой ілюстрацыяй гэтаму служыць апавяданне амерыканскага пісьменніка О'Генры «Дарогі, якія мы выбіраем». Сюжэт апавядання нескладаны: тры бандыты рабуюць паштовы вагон амерыканскага экспрэса. Аднаго з іх праваднік вагона забівае, двое з нарабаванымі доларамі ўцякаюць. У дарозе ў аднаго з тых, што засталіся жывымі, падае конь, які зламаў у час шалёнай скачкі пярэднюю нагу. На двух коннікаў застаецца адзін конь па мянушцы Балівар. Гэты дужы конь мог бы павезці на сабе двух, але гаспадар яго, з прыкметнай мянушкай Акула Додсан, вырашае па-свойму: «Балівар двух не панясе»,— спакойна гаворыць ён і таксама спакойна разраджае ў таварыша рэвальвер.

Разбагацеўшы на нарабаваным, Акула Додсан становіцца шаноўным буржуа і адкрывае маклерскую кантору. Калі яго сябру, таксама фінансаваму заправілу, у выніку нейкай афёры пагражае крах, Додсан таксама спакойна, як некалі прыстукнуў сябра, разарае і гэтага прыяцеля, паўтараючы ўжо знаёмы нам сказ: «Балівар двух не панясе».

Вось ён, воўчы закон бандыцкай, гэта значыць, капіталістычнай таварыскасці! **(Апладысменты).**

Між іншым, у нашым разуменні гэта ж адно і тое ж: тут ніяк не правядзеш размежавальнай лініі і не зразумееш, дзе канчаецца бандытызм і пачынаецца капіталізм. **(Апладысменты).** І бандыцкая і капіталістычная таварыскасць — проста двое сіямскіх блізнят, дастаткова агідных па знешнасці і нутру для здаровага чалавечага грамадства. **(Апладысменты).**

Прамоўцы на з'ездзе многа гаварылі пра фракцыянераў, пра тых, хто бессаромна ігнараваў святыя вузы партыйнай таварыскасці. Цяпер на з'ездзе нам сталі вядомы новыя падрабязнасці іх злачыннай дзейнасці. І само сабою ўзнікае пытанне: да якога ж часу мы будзем стаяць у партыйных радах поруч з тымі, хто зрабіў партыі так многа непапраўнага зла? Ці не занадта мы цярплівыя да тых, на чыім сумленні тысячы загінуўшых верных сыноў Радзімы і партыі, тысячы загубленых жыццяў іх блізкіх?

З'езд — вярхоўны орган партыі, хай ён вынясе адносна фракцыянераў і адшчапенцаў сваё суровае, але справядлівае рашэнне. **(Апладысменты).**

І каб закончыць непрыемную размову пра непрыемных людзей, дазвольце мне ў заключэнне прывесці яшчэ адну вытрымку з прамовы Тараса Бульбы, з той жа прамовы, дзе ён гаварыў аб таварыскасці.

Аказваецца, стары Тарас таксама ў свой час змагаўся з фракцыянерамі, а па-тагачаснаму з адступнікамі. І вось што ён гаварыў:

«Але ў апошняга падлюгі, які ён ні ёсць, хоць увесь выкачаўся ён у сажы і ў паклонніцтве, ёсць і ў таго, браткі, крупінка рускага пачуцця. І прачнецца яно калі-небудзь, і лясне ён, гаротны, аб крыссе рукамі, схопіць сябе за галаву, пракляўшы гучна подлае жыццё сваё, гатовы пакутамі выкупіць ганебную справу».

Але ж гэта гаварылася пра адступнікаў-запарожцаў, а вось ці хопіць мужнасці ў цяперашніх адступнікаў «гучна праклясці подлае жыццё сваё», ці хопіць у іх рашучасці «пакутамі выкупіць ганебную справу»? Штосьці не вельмі верыцца ў гэта: не такія яны людзі. Як кажуць, «Федот, да не тот». Зрэшты, будучыня пакажа.

Можна прадбачыць, што буржуазны друк узніме выццё: вось, маўляў, якія пісьменнікі-камуністы, замест таго, каб праяўляць абавязковы па духу іх прафесіі гуманізм, яны заклікаюць да помсты. Што-небудзь падобнае будзе напісана заўсёды гатовымі да паслуг буржуазнымі барзапісцамі. На гэта магу загадзя адказаць у адрас прадажных пісак: «Супакойцеся, паны нехарошыя, ніхто не думае пра помсту, ніхто не прагне атручанай інтрыгамі крыві фракцыянераў, але адказваць за зробленыя злачынствы супраць народа і партыі яны павінны і будуць. Такі агульначалавечы закон». **(Апладысменты).**

Гуманізм, як і таварыскасць, мы і капіталісты або людзі іх светапогляду таксама разумеем па-рознаму: мы, падобна да ўрача, вырываем гнілы зуб, які перашкаджае здароваму, дужаму арганізму, і тым самым робім акт чалавечнасці, а для супастаўлення дазвольце прывесці другі прыклад «чалавечнасці»: у Італіі, у ваколіцах Рыма, праездам я бачыў раскошны будынак. Там знаходзіцца санаторый для кошак. Зразумела, не для тых худых і аблезлых кошак, з якімі гуляе галодная, знясіленая вечным недаяданнем дзятва сталічных ускраін, дзеці італьянскіх нізкааплачваемых рабочых і беспрацоўных, а для кошак італьянскіх і іншых мільянераў і мільянерак.

Там гэтых хворых ад атлусцення і безрабоцця кошак лечаць вопытныя ўрачы: песцяць, купаюць, прычэсваюць і пырскаюць духамі кваліфікаваныя санітаркі, кормяць гэтых праклятых хворых адменнымі стравамі, водзяць на прагулкі і даглядаюць усяляк паслужлівыя нянькі. А побач, на памыйніцах, корпаюцца галодныя дзеці і глядзяць на цябе запалымі вачыма з недзіцячым цяжкім смуткам. Гэта таксама гуманізм? А на нашай мове гэта называецца нізкасцю самых гнілых душ! І няхай паны капіталісты выкінуць са свайго лексікона высокае слова «гуманізм», яно існуе не для звяроў у чалавечым абліччы!

Мне — пісьменніку па прафесіі — трэба было б гаварыць пра літаратуру, але я, як і ўсе вы, перш за ўсё камуніст, а потым ужо — пісьменнік, таму і пачаў з таго, што больш хвалюе **(Бурныя апладысменты),** хоць вельмі добра памятаю аб тым, што літаратура — таксама частка агульнапартыйнай справы. Адным словам, прашу прабачыць мне за доўгую прадмову і пераходжу да пытанняў літаратуры.

Мне мала што застаецца дадаць да таго, аб чым гаварыла ў сваім выступленні тав. Фурцава. Яна, так сказаць, апярэдзіла маё выступленне, але ўсё ж на сімтым лічу неабходным спыніцца. Перш за ўсё хачу сказаць, што мы даўно марылі пра міністра тыпу таварыша Фурцавай. І такога міністра мы нарэшце атрымалі. **(Апладысменты).** Усім узяла наша дарагая Кацярына Аляксееўна: і справу сваю выдатна паставіла, таму што ведае і любіць яе, і знешнасцю прывабная **(апладысменты),** і ў абыходжанні з дзеячамі культуры таксама прывабная. А сустракацца і гутарыць, ды яшчэ кіраваць дзейнасцю дзеячоў культуры і асабліва мастацтва — справа далёка не лёгкая таму, што ўсё гэта людзі найтанчэйшых эмоцый, а проста кажучы, спешчаныя і капрызныя людзі. **(Апладысменты).** Аднаму не так усміхнешся, з другой не так павітаешся, на трэцяга не так глянеш — вось табе і крыўда, ды не проста крыўда, а кроўная! Усё ж спраўляецца наш міністр з усімі гэтымі справамі, і спраўляецца, як бачыце, нядрэнна. А тут яшчэ ўсё новыя таленты ў яе адкрываюцца, ну, мы і дзіву даёмся і рукамі разводзім ад задавальнення і здзіўлення. Зараз я пра гэта скажу. Калі наш міністр гаварыла пра колькасць кінаўстановак у краіне, пра колькасць новых самадзейных калектываў, усё ў яе ішло без сучка і задзірынкі, а як толькі загаварыла пра драматургію, вось тут і выявіліся яе незвычайныя дыпламатычныя таленты. Глядзіце, які выдатны ход канём яна зрабіла, ужыўшы спосаб дыпламатычнага маўчання.

Я не міністр і зусім не маю дыпламатычных здольнасцей, а таму мне і хочацца проста, без умоўчванняў пагаварыць з Кацярынай Аляксееўнай. Ну, добра, вы сказалі, што з 1 114 савецкіх п'ес, пастаўленых у тэатрах краіны, 780 прысвечаны сучаснай тэме. Вы і працэнты падлічылі, маўляў, больш 70 працэнтаў. Вось мне і хочацца спытаць: а колькі працэнтаў з гэтых сямідзесяці працэнтаў застанецца на тэатральных падмостках? Пакінем, бадай, працэнты ў спакоі і пяройдзем да абсалютных лічбаў. Дай божа, каб з 780 засталося дзесяткі два-тры, а то і менш. **(Апладысменты).** І другое пытанне: а колькі з гэтых двух-трох дзесяткаў п'ес запомняцца гледачам? Я ўжо не гавару напышлівых слоў аб тым, што, маўляў, пакінуць на душы непазбыўны след, а проста колькі запомняцца і прымусяць гледача задумацца? І таго менш! За творчае бяссілле драматургаў даводзіцца расплачвацца бедным гледачам. Вось у чым уся бяда!

Хітрая рэч лічбы і працэнты, тав. Фурцава, толькі і глядзі падвядуць. **(Апладысменты).** Лепш ужо ім, гэтым лічбам, жыць дзе-небудзь у ЦСУ, там ім будзе больш утульна, чым у мастацтве. **(Смех. Апладысменты).**

Прыкладна тое ж самае адбываецца і ў прозе. З'яўляецца вельмі многа кніг, якія неўзабаве ідуць, так сказаць, у «пераплаў».

Прычына? Яна вядома ўсім вам. Адбываецца заканамерны разрыў: нізкая якасць прадукцыі і высокая патрабавальнасць чытача. Але не так ужо абстаіць усё змрочна на літаратурным фронце, як можа здацца на першы і павярхоўны погляд. Адбываецца мала прыкметная для чытача, але вельмі радасная з'ява: цэлая плеяда маладых і сапраўды таленавітых пісьменнікаў, вядомых раней па апавяданнях у перыядычным друку, становіцца сталымі і шматабяцаючымі майстрамі слова. Гэта характэрна не толькі для рускай, але і для ўсіх нацыянальных літаратур. Я не стану пералічваць прозвішчаў, яны дастаткова вядомы чытачам, але хачу сказаць вось пра што: гэтым пісьменнікам трэба ўсяляк дапамагчы, каб у іх была магчымасць папрацаваць гады два-тры, не думаючы аб заўтрашнім дні, не адрываючыся ад работы над вялікімі палотнамі, якія ў многіх даўно задуманы і для якіх гэтымі пісьменнікамі ўжо нарыхтаваны сапраўдны, з веданнем справы матэрыял.

Колькасць такіх пісьменнікаў значна павялічыцца, калі мы дапаможам не толькі сталічным пісьменнікам, але і правінцыяльным, якіх налічваецца па Саюзу пісьменнікаў даволі значная колькасць. Гэта ўсё народ, які добра ведае жыццё, які многа ездзіў на сваім вяку і многа пабачыў, а галоўнае — таленавіты народ, але, на жаль, пазбаўлены цяпер магчымасці засесці без адрыву за стварэнне буйных не толькі па аб'ёму твораў. Вось на каго трэба рабіць стаўку! Ва ўсякім выпадку, большасць з іх не падвядзе, а гэта — ужо многа.

Выходзяць добрыя кнігі за апошні час, але іх да крыўды мала, можна б выдаваць больш, і ад гэтага становіцца сумна, перш за ўсё, разумеецца, нам, а не вам, таварышы дэлегаты і чытачы.

Адной з галоўных прычын адставання ад жыцця нашай літаратуры і адной з галоўнейшых прычын з'яўлення пасрэдных твораў я па-ранейшаму лічу ўкаранелы адрыў ад гэтага жыцця ў пісьменніцкім асяроддзі, павярхоўнае веданне рэчаіснасці, якая імклівa цячэ і пастаянна мяняе сваё аблічча.

Тав. Фурцава прывяла ў сваім выступленні сапраўды страшныя лічбы. Падумаць толькі, з 2 700 пісьменнікаў РСФСР 1 700 — пастаянныя жыхары толькі двух гарадоў — Масквы і Ленінграда. А калі да гэтага дадаць тых, хто пастаянна жыве ў Варонежы, Растове, Свярдлоўску і іншых абласных гарадах, дык што ж застаецца для сельскай мясцовасці?

Пісьменнік, які піша пра калгаснікаў ці людзей саўгаса, па-мойму, павінен валодаць ведамі ў галіне сельскай гаспадаркі не ніжэй узроўню хоць бы ўчастковага агранома. **(Бурныя апладысменты).** Той, хто піша пра металургічны завод, пра заводскіх рабочых, інжынераў і тэхнікаў, абавязаны ведаць вытворчасць, прынамсі, не горш за рабочага высокай кваліфікацыі. Той, хто прысвяціў сваю працу нашай арміі, абавязкова павінен ведаць ваенную справу не горш за Купрына і Льва Талстога, інакш з'яўленне «развесистой клюквы» і тандэту забяспечана. **(Апладысменты).** А часта іменна так і бывае. Што датычыцца кахання і любоўных перажыванняў героя або гераіні, дык аб гэтым можна пісаць усюды, справа ясная і не патрабуе спецыяльных пазнанняў. **(Смех. Бурныя апладысменты).**

Наш міністр з гэтакай чыста жаночай ветлівасцю гаварыла аб тым, што, маўляў, нядрэнна было б звярнуцца да маладых мастакоў з заклікам паехаць па прыкладу нашай сапраўднай моладзі на будоўлі камунізма. А вы спытайце яе, ці верыць яна сама ў тое, што на такі заклік горача адгукнуцца? Далі-бог, не верыць! **(Апладысменты).** Хто-небудзь з тых, каго заклікаюць, паедзе на які тыдзень праветрыцца, падыхаць азонам, а потым засумуе па цёплай прыбіральні, па другіх выгодах гарадскога жыцця **(смех, бурныя апладысменты)** і зноў мігам апынецца ў Маскве. **(Апладысменты).**

Маладым творцам «вечных каштоўнасцей», тым, якія жывуць у правінцыі, не забароніш уезд ні ў Маскву, ні ў другія буйныя цэнтры. Яны чуюць, з якім трыумфам праходзяць у Маскве літаратурныя вечары нашых сённяшніх модных, будуарных паэтаў, абавязкова з конным нарадам міліцыі і з істэрычнымі крыкамі маладых стыляжных клікуш. Ім таксама хочацца пакрасавацца перад непатрабавальнымі дзяўчатамі ў неймаверна вузкіх штоніках і ў неапраўдана шыракаплечых сурдутах. **(Агульны смех. Апладысменты).** Ім таксама хочацца пакаштаваць пладоў славы. Вось яны і пруцца ў Маскву, як праверныя ў Меку. **(Смех. Апладысменты).** І ніякімі ўгаворамі і каранцінамі іх не ўтрымаеш. Як кажуць, «ідуць і едуць, паўзуць і лезуць», а сваёй мэты дасягаюць. **(Смех. Апладысменты).**

Што, дапусцім, Федзіну, Лявонаву, Максіму Рыльскаму ці мне ад таго, што нейкая там малодка кіне на ходу: «Паглядзі, душачка, гэта ідзе такі вось!» Для нас гэта — ужо «не той нарзан», як кажуць старыя пенсіянеры. **(Агульны рогат. Апладысменты).** А маладому гэта прынадна, ты моршчышся ад бесцырымоннага ўпамінання твайго імя, а іншы малады растае. Да гэтага можна ставіцца без спагадлівасці, але разумець маладосць усё-такі трэба.

Многія з вас, напэўна, бачылі ў мінулым, як сяляне падсявалі на грохаце, гэткім вялікім падвесным рэшаце, збожжа, ачышчалі яго перад сяўбой. Мякіна, пыл, ахвосце ляціць па ветру, а паўнаважкае зерне застаецца. Так будзе і ў літаратуры: зерне застанецца, мякіна адляціць. Само жыццё пакруціць літаратурны грохат, і адбудзецца неабходны працэс ачышчэння.

Так, на мой погляд, абстаіць справа з маладымі. З пажылымі пісьменнікамі — таксама не лепш. Ну, куды яго, гарадскога жыхара, на старасці гадоў клікаць на страшную для яго перыферыю? Ды і навошта ён там патрэбен і каму? **(Смех. Апладысменты).** Асабіста я даўно ўжо адмовіўся ад думкі перамясціць пісьменнікаў бліжэй да тых, пра каго яны пішуць. Безнадзейная справа! І хай на гэтым высакародным полі дзейнасці нажывае шышкі тав. Фурцава, а з мяне хопіць! **(Рогат. Апладысменты).**

Тут, на з'ездзе, была выказана надзея, што мы, пісьменнікі і дзеячы мастацтва, будзем і надалей добрымі і разумнымі дарадчыкамі савецкага народа. Але ж цяжка быць дарадчыкам таму, хто сам не ведае жыцця. Тут можна нараіць такога, што і сам чорт не разбярэцца. Ды і на самай справе, як можа пісьменнік — тыповы гараджанін, які бачыў вёску па-сапраўднаму 30—40 гадоў назад і даўно страціў з зямлёй усялякую сувязь, а іншы раз і такі, які ніколі не меў такой сувязі,— штосьці параіць у вытворчым пытанні, скажам, вопытнаму старшыні калгаса ці дырэктару саўгаса, якія ў сваёй справе, што называецца, сабаку з'елі? Ну, а наконт маральна-этычных праблем некаторыя з гэтых, з выгляду сціплых хлапцоў, могуць і зусім сяго-таго з пісьменнікаў, што называецца, «і разуць, і раздзець». Такому пісьменніку, які не адрозніць рунь яравой пшаніцы ад азімай, а авёс блытае з ячменем, лепш не выступаць у ролі няпрошанага дарадчыка, а усяляк старацца ўцячы, пакуль цэлы, ад тых, каму ён надумае па неразуменню свайму даваць парады.

Сам разумею, што выступленне мае носіць крыху змрочны характар, але нічога з сабой не магу зрабіць: адолела нейкая праклятая прагнасць — усё хочацца, каб добрых кніг было больш, а іх мала. Вось і злуешся і на сябе і на другіх, ды карысці ад гэтага мала. Такія пытанні трэба вырашаць перш за ўсё калектыўна і без асаблівай паспешлівасці.

Спешка ў такой справе наўрад ці будзе верным памочнікам. А тут яшчэ адна бяда — бо беды, як вядома, не ходзяць па адной. У вельмі добрай змястоўнай прамове сакратар ЦК Камуністычнай партыі Украіны тав. Падгорны выпусціў з-пад увагі, на мой погляд, адну вельмі выгадную магчымасць: варта б яму было ўпамянуць аб тым, што пісьменнікаў-украінцаў выбіралі дэлегатамі не толькі ж у горадзе Кіеве. Ну, і сказаў бы, што так, маўляў, і так, дарагія таварышы пісьменнікі, выбралі вас дэлегатамі на з'езд КПСС у абласных цэнтрах Украіны і перабірайцеся туды паціхеньку і жывіце сабе на здароўе **(смех, апладысменты),** і пішыце пра тых працаўнікоў абласцей, дзе вас выбіралі: на Палтаўшчыне — дык пра палтаўчан, у Чарнігаве — дык пра чарнігаўцаў. А вось жа не сказаў ён гэтага. І зноў пісьменнікі вернуцца ў стольны горад Кіеў, і зноў усё пойдзе па-старому. Тое ж можна сказаць і ў адносінах сакратароў іншых абласцей, дзе пісьменнікаў хоць адбаўляй. Трэба было і ім пісьменнікаў прыгарнуць, як кажуць украінцы, запрасіць да сябе ў далёка не ціхія правінцыяльныя гарады і сёлы і ні ў якім разе не на мірнае, а на баявое жыццё, на глыбокае, праніклівае пазнанне жыцця і на сапраўды творчую працу. Думаецца усё ж, што гэта справа папраўная.

Але што б там ні было, а наша літаратура з'яўляецца перадавой і не толькі па ідэйнаму зместу. Мацнеюць нашы сувязі з замежнымі выдавецтвамі. Кнігі нашых пісьменнікаў выдаюцца ўсюды за мяжой. Яны чытаюцца, захапляючы хутчэй зместам, а не формай, таму што вельмі вялікая цікавасць у замежных краінах да нашага жыцця, да нашай сённяшняй рэчаіснасці.

Але да замежных крытыкаў у нас, савецкіх пісьменнікаў, бадай, большыя прэтэнзіі, чым да сваіх. Калі нашы крытыкі ў большасці сваёй не ведаюць жыцця, дык замежныя не толькі не ведаюць, але і кепска яго асэнсоўваюць. Вельмі часта ў іх да нас узнікаюць зусім неабгрунтаваныя прэтэнзіі. Яны сцвярджаюць, што пішам мы прадузята. А як бы ім хацелася?

Дапусцім, я пішу пра нашага салдата, пра чалавека, бясконца роднага мне і блізкага. Як жа я напішу пра яго кепска?! Ён мой, увесь мой, ад пілоткі даануч, і я стараюся не заўважаць, дапусцім, рабацінне на яго твары ці некаторых недахопаў у яго характары. **(Бурныя апладысменты).**

А калі і заўважу, дык пастараюся ўжо напісаць так, каб чытач таксама палюбіў яго разам і з гэтым мілым рабацiннем і з невялікімі недахопамі ў характары. **(Апладысменты).**

Тут перада мной сядзяць людзі, у асноўным абцяжараныя жыццёвым і іншым вопытам. Вы ведаеце, што бывае так, што вяснушкі на твары кірпатай і непрыкметнай жанчыны становяцца раптам для цябе даражэйшыя за любы бездакорна-чысты, атласнай свежасці твар; і што іншы раз стомленыя зморшчынкі ў куточках вачэй любімай жанчыны для цябе больш жаданыя, чым белазубая і бяздумная ўсмешка маладой рагатухі. А бывае і так, што непрыглядная з выгляду жанчына павядзе за сабой такога хлопца, што глянеш і закачаешся. **(Смех. Апладысменты).** Усяляк бывае ў жыцці, і ўсё вы гэта ведаеце не горш за мяне. **(Смех у зале).** Дык як жа можа пісьменнік, калі ён не «халодны шавец», з раўнадушнай абыякавасцю пісаць пра людзей, якіх любіць?!

Кажуць, што Чэхаву належыць фраза аб пісьменніцкай творчасці: «Калі садзішся пісаць, будзь халодным, як лёд». Няпраўда! Не можа быць мастак халодным, калі ён творыць! З рыбінай кроўю і ляжачым ад атлусцення сэрцам сапраўднага твора не створыш і ніколі не знойдзеш шляхоў да сэрца чытача.

Я за тое, каб у пісьменніка бурліла гарачая кроў, калі ён піша, я за тое, каб твар яго бялеў ад стрымліваемай нянавісці да ворага, калі ён піша пра яго, і каб пісьменнік смяяўся і плакаў разам з героем, якога ён любіць і які яму дарагі. **(Апладысменты).**

**Хрушчоў.** Правільна.

**Шолахаў.** Толькі пры гэтых умовах будзе створаны сапраўдны твор сапраўднага мастацтва, а не падробка пад яго.

Але гэта ўжо творчая лабараторыя, ці проста кухня, бадай, не цікавая для вас. Я пераходжу да задач савецкай літаратуры, на якіх хачу коратка спыніцца.

Нам патрэбна за многае змагацца і, як мне здаецца, перш за ўсё за ўплыў на нашу моладзь. Выдатная ў нас моладзь. Краіна многім абавязана яе маладому энтузіязму, яе гераічнай працы. Але вельмі нязначная частка моладзі неспакойная духам, шукае рамантыкі ў нашых гераічных буднях і не знаходзіць яе. А яна пад рукамі, варта толькі працягнуць іх і ўважліва прыглядзецца да жыцця. Мы абавязаны адхіснуць гэту моладзь ад чужых уплываў і далучыць да працы і подзвігу ў наш нялёгкі час.

І не толькі гэта праблема стаіць перад пісьменнікамі сёння і будзе стаяць заўтра. Савецкая сям'я, маральнае аблічча новага чалавека, тытанічная праца нашага народа — усё гэта патрабуе ўвасаблення ў мастацкія вобразы, усё гэта настойліва патрабуе ад нас стварэння паўнацэнных вялікіх твораў. Мы, людзі мастацтва, усё гэта добра разумеем і адчуваем увесь цяжар адказнасці перад партыяй і народам, якая ляжыць на нас.

У заключэнне мне хочацца сказаць: сярод прысутных многа дэлегатаў, якіх ласкава называюць «маякамі». Добрае гэта слова, ёмістае. Я папрашу тых, хто свеціць сваёй працай, не забываць аб тым, што свецяць яны не толькі людзям сваёй прафесіі ці спецыяльнасці. «Маякі» навукі, тэхнікі, прамысловасці, сельскай гаспадаркі свецяць і нам, людзям мастацтва. І мы глядзім на іх не без некаторай зайздрасці, таму што ў сваёй творчасці яшчэ не дасягнулі таго, чаго дасягнулі яны. Але святло іх агню падае і на нас, і саграе нас. і, бадай, прасвечвае ў змрочныя часы.

Вялікае душэўнае дзякуй тым, хто свеціць! **(Бурныя, працяглыя апладысменты).**

Такое ж дзякуй і тым, хто акумуліруе энергію носьбітаў святла, дзякуй за цёплыя клопаты аб нас, якія мы, магчыма, не ў поўнай меры заслужылі, але я цвёрда веру ў тое, што яшчэ заслужым! **(Бурныя, працяглыя апладысменты).**

Дэлегаты XXII з'езда КПСС ад Беларускай ССР наведалі Усесаюзную выстаўку дасягненняў народнай гаспадаркі СССР.

На здымку — група дэлегатаў з'езда ад Брэсцкай вобласці ля тэматычнай выстаўкі ільну ў Беларускім павільёне. Экскурсавод павільёна (другая злева) расказвае дэлегатам з'езда таварышам: У. П. Старавойтаву — сакратару Гарадзішчанскага РК КПБ, А. А. Раманюк — загадчыцы свінагадоўчай фермы калгаса імя Жданава Пружанскага раёна, В. К. Мацюшка — звеннявой комплекснага звяна калгаса імя Ламаносава Ляхавіцкага раёна і В. А. Васілевіч — зменнаму майстру швейнай фабрыкі гор. Баранавічы аб дасягненнях звеннявой калгаса імя Сталіна Талачынскага раёна Ганны Логвінаўны Іванюта ў вырошчванні ільну.

Фота **Ул. КІТАСА.**

## НАШЫ КРЫЛЫ

— Нашы крылы...

Гэтыя словы сказаў не паэт, не лётчык, не касманаўт... Гэтыя словы сказаў просты, «зямны» чалавек...

На Мінскім трактарным заводзе праходзіў кароткі мітынг, прысвечаны касмічнаму падарожжу Германа Цітова ў космасе. Гаварыў пажылы рабочы-камуніст. Ён гаварыў аб дасягненнях Савецкай краіны, аб мужнасці нашых людзей, аб мудрасці Камуністычнай партыі.

Ён заканчваў сваю невялічкую, няскладную, але сагрэтую сэрцам прамову. І вось дзве цяжкія рукі лёгка ўзняліся ў паветра:

— Нашы крылы!..

І сапраўды ж, нашы крылы! Камуністычная партыя дала савецкім людзям крылы. І калі мы бяром новыя і новыя вышыні, робім новыя і новыя ўзлёты, мы знаем — нас акрыліла партыя.

Крылы гордыя, моцныя, імклівыя. Яны нясуць нас да чалавечага шчасця — камунізма, да зорнага свету, да запаветнай мары...

І вось цяпер, у гэтыя хвалюючанезвычайныя дні... У светазорнай Маскве, у цудоўным зале Крамлёўскага Палаца з'ездаў, камуністы гавораць аб новых узлётах, аб новых жыццёвых вышынях.

Нашы крылы!

Пад воплескі ўсёй нашай неабсяжнай Радзімы, пад воплескі ўсіх людзей добрай волі на зямлі Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў гаворыць у сваім дакладзе:

«У апошнія гады наша краіна, па-ранейшаму значна перавышаючы ЗША па тэмпах, стала абганяць іх і па абсалютнаму прыросту вытворчасці многіх важнейшых відаў прадукцыі».

Нашы крылы!

«У Савецкім Саюзе нацыянальны даход на душу насельніцтва павялічваецца намнога хутчэй, чым у найбольш развітых капіталістычных краінах».

Нашы крылы!

У гэтыя дні, дні работы XXII з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, у Маскву ляцяць тысячы тэлеграм і пісем. Сталявары і энергетыкі, хлебаробы і пуцейцы, шахцёры і вучоныя рапартуюць аб новых дасягненнях, аб новых вытворчых заяўках у камунізм...

— Нашы крылы!..

Гэтыя словы сказаў не паэт, не лётчык, не касманаўт... Гэтыя словы сказаў просты, «зямны» чалавек.

Гэтыя словы гавораць усе людзі на зямлі, якія хочуць свабоды і міру, радасці і шчасця.

Міхась ПЯНКРАТ.

# МАСТАЦТВА НАРОДА — ДУША НАРОДА

Яшчэ ў дваццатыя гады Ул. І. Ленін марыў аб тым, што мастацтва ў камуністычным грамадстве будзе належаць народу, што яно будзе абуджаць у ім мастакоў. Гэтыя мары Уладзіміра Ільіча даўно сталі яваю. Мастацтва ў нашай краіне ўжо даўно перастала быць прывілеяй выбраных.

Гэта асабліва адчувальна, калі знаёмішся з Рэспубліканскай выстаўкай самадзейнага і прыкладнога мастацтва, прысвечанай XXII з'езду КПСС.

Усе творы выкананы рабочымі, служачымі, калгаснікамі. Яны знаходзяць час і для заняткаў выяўленчым мастацтвам, узбагачаюць духоўную скарбніцу нашага народа. Іх творы па глыбіні пачуцця нярэдка нават перавышаюць творы некаторых прафесіянальных мастакоў.

Разнастайная і тэматыка экспанатаў. Тут мастацкія палотны, вышыўкі, інкрустацыі, прысвечаныя савецкім касманаўтам, жывёлаводам, земляробам, сталеварам. Тое, што хвалюе ўсіх савецкіх людзей, хвалюе і самадзейных мастакоў.

Але бадай самае большае і ганаровае месца ў экспазіцыі выстаўкі займае тэма барацьбы за мір. Яна прысутнічае нават там, дзе, на першы погляд, здаецца, і няма ніякай гаворкі аб міры.

Вось, напрыклад, невялічкая гіпсавая статуэтка «На цаліну», мінчаніна К. Машукова.

...Дэмабілізаваны воін накіроўваецца на асваенне цалінных зямель Казахстана. У ім столькі нястрымнай энергіі, сілы, што мімаволі верыш, — гэты чалавек пераадолее ўсе цяжкасці. Ён моцны, дужы, яму пад сілу любая праца, але зусім не патрэбна вайна, ён марыць аб стварэнні, а не аб разбурэнні. І няхай не зусім дакладныя малюнак, кампазіцыя статуэткі, зместам сваім яна сцвярджае мір.

Вялікую любоў і павагу ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва заслужыў нястомны барацьбіт за мір М. С. Хрушчоў. Яму, сцяганосцу міру, прысвяцілі сваю калектыўную працу інкрустатар С. Вольскі сумесна з выхаванцамі Магілёўскага дзіцячага дома № 6. Мазаічнае пано, на якім паказан М. С. Хрушчоў з голубам міру ў руках, складзена з 34 700 кавалачкаў драўніны васемнаццаці розных парод. Можна сабе ўявіць, колькі часу і працы спатрэбілася яго стваральнікам. Кавалачкі драўніны падабраны ў прыгожай залацістай гаме.

Мастацкай інкрустацыі наогул належыць даволі значнае месца на выстаўцы. Яе тэхнікай выдатна валодаюць мінскія майстры К. Цяўлоўскі і Г. Гебелеў, рабочы з Слоніма Г. Чарноў і інш.

К. Цяўлоўскі экспануе прыгожа інкруставаны партрэт першага касманаўта Ю. Гагарына. Партрэтнае падабенства не выклікае асаблівых пярэчанняў. Шкада толькі, што мастак не адыходзіць ад вядомай фатаграфіі Ю. Гагарына. Беларускія гледачы ведаюць К. Цяўлоўскага не толькі як прафесіянала-інкрустатара, але і як добрага рысавальшчыка і майстра кампазіцыі. Таму такое пасіўнае капіраванне фатаграфіі здзіўляе.

Тое ж самае можна сказаць і аб працах Г. Гебелева. Шкатулкі з партрэтамі Ю. Гагарына і Г. Цітова, выкананыя ім, па якасці мастацкай інкрустацыі выдатныя. Але ў іх няма нічога новага. Г. Гебелеў нібы спыніўся на ўзроўні тых твораў, з якімі выступаў на мастацкіх выстаўках ужо шмат год назад. Вядома, што пры ўвасабленні ў інкрустацыі партрэтаў нашых сучаснікаў нельга абысціся без фатаграфіі. Але ж гэта не самамэта. Магчымасці такога віду мастацкай творчасці куды шырэйшыя.

Традыцыйны народны від творчасці — разьба па дрэву таксама шырока прадстаўлена на выстаўцы. Развіццю гэтага мастацтва ў Беларусі спрыяе наяўнасць пэўных традыцый, якія склаліся на працягу многіх стагоддзяў. Прыемна адзначыць, што майстэрства народных разбяроў значна палепшылася, тэматыка іх твораў разнастайная. Многія працы адзначаны рысамі сучаснасці. Аўтары імкнуцца ўвасобіць у сваіх творах новага савецкага чалавека, будаўніка камунізма. Так, Л. Шостак (Крывічы) прысвяціў серыю сваіх работ працаўнікам калгасных палёў. Яго «Ільнаводка», «Трусавод» і інш. па сваіх мастацкіх якасцях зусім закончаныя творы.

Віцебскі сталяр М. Івінскі ўжо не першы год удзельнічае ў мастацкіх выстаўках. На сёлетняй ён паказаў свае працы — «Нарачанскі рыбак», «Кукурузавод», барэльеф «Пад сцягам Леніна», і інш. Кожны, хто ўважліва сачыў за развіццём таленту гэтага самабытнага ўмельца, мог заўважыць, што майстэрства М. Івінскага вырасла. Лепшай стала кампазіцыя, больш упэўненым малюнак, лепка формы.

Пасталела творчасць мастацкага кіраўніка Дзятлаўскага раённага Дома культуры Гродзенскай вобласці В. Мацюка. Яго статуэтка «У спякотны дзень» спыняе ўвагу многіх гледачоў. Кампазіцыя яе нескладаная. Маладая калгасніца з граблямі ў руках прагна п'е з конаўкі ваду. Не трэба валодаць вялікай фантазіяй, каб уявіць сабе шырокі калгасны луг, яркае спякотнае сонца, скошаную сакавітую траву і бадзёрых загарэлых дзяўчат, якія грабуць сена.

Імя глускага разбяра Н. Ячменькава яшчэ мала вядома нашым гледачам. Можна спадзявацца, што неўзабаве ён набудзе большую папулярнасць. Мастак выставіў толькі адну статуэтку «Рыбак». Па гэтай працы можна меркаваць, што аўтар яе валодае добрым густам і майстэрствам сатырычнага абагульнення. Вобраз, створаны Ячменькавым, — натуральны, жывы. Рыбак у захапленні расказвае пра свае прыгоды. Адразу відаць, што ён перабольшвае. Шырока разведзеныя рукі малююць у паветры памеры «злоўленай» калісьці ім рыбіны. Але сабака выдае няўдалага рыбалова. Яна выцягвае з-пад ног малюсенькую рыбінку. Лёгка ўявіць сабе яго слухачоў, якія заходзяцца ад рогату.

У сатырычным плане выступіў і разбяр з Чавус, студэнт В. Валкоўскі. Яго працы «Заядлы палыльшчык», «У зубнога ўрача» і інш. збіраюць каля сябе натоўпы гледачоў.

З скульптурных прац вызначаюцца бюст Фідэля Кастра — калектыўная праца навучэнцаў мастацкай студыі Віцебскага абласнога Дома народнай творчасці і партрэт кіраўніка паўстання 1863 года на Беларусі Валерыя Урублеўскага — аўтар А. Ліпень (Гродна). У гэтых працах шмат агульнага. Той жа энергічны паварот галавы, той жа арліны позірк. Вонкавае падабенства двух герояў, мабыць, зыходзіць з унутранага падабенства гэтых людзей. Хоць В. Урублеўскі жыў у зусім іншы час, але па свайму душэўнаму складу ён быў блізкі да Фідэля Кастра.

Крыху інакш вырашаны вобраз правадыра кубінскай рэвалюцыі ў скульптурным партрэце, зробленым гомельскім журналістам Л. Персціным. Тут Фідэль Кастра паказаны ў звычайным штодзённым жыцці як просты чалавек. І ў гэтай прастаце — веліч нацыянальнага героя Кубы.

Прыемнае ўражанне пакідаюць графічныя працы служачых з Магілёва Э. Карповіч і І. Моніч, ліягравюры В. Садзіна і В. Чычэрына. Плакаты «Здадзім датэрмінова», і «Беражы народную капейку» (работы Карповіч і Моніч), прысвечаны барацьбе за рэжым эканоміі і за вырашэнне жыллёвай праблемы. Плакаты лаканічныя, простыя па кампазіцыі. Выпушчаныя вялікім тыражом, яны могуць з'явіцца дзейсным сродкам масавай агітацыі.

Жывапісных прац у параўнанні з іншымі жанрамі менш. Але і ў іх раскрываюцца працоўныя будні нашай рэспублікі. Тое новае, што з'явілася ў жыцці і працы нашых людзей за апошнія гады, знайшло сваё адлюстраванне ў працах самадзейных жывапісцаў С. Мірзаяна (Барысаў), Н. Шчаўканогава (Маладзечна), Ю. Крыкава (Орша) і інш.

Карціна С. Мірзаяна «Перад спускам у шахту» прыцягвае ўвагу сваёй незвычайнай кампазіцыяй. Мастак паказаў беларускіх шахцёраў, якія збіраюцца спусціцца пад зямлю. Іх твары ледзь асветлены, але характары гэтых людзей добра відны і ў такіх абставінах. Людзі спакойныя, упэўненыя. Можна не згаджацца з аўтарам у некаторых дэталях кампазіцыі, але сама тэма — працоўныя будні салігорскіх шахцёраў — раскрыта ў асноўным правільна.

У карціне В. Іванова «Будоўля» магутная тэхніка і размах вялікай будоўлі нейк засланілі сабой вобразы людзей. Таму твор успрымаецца хутчэй як індустрыяльны пейзаж. Відаць, мастак і не ставіў сабе мэтай паказаць пафас вялікага будаўніцтва праз характары і перажыванні дзеючых персанажаў. Але, нам здаецца, В. Іванову варта было б падумаць і аб увасабленні індывідуальнага вобраза савецкага чалавека.

Мастацкае ткацтва і вышыўка, як вядома, з'яўляюцца гордасцю беларускіх умельцаў. Іх працы атрымалі прызнанне не толькі ў нашай краіне, але і за мяжой. Ткачыхі і вышывальшчыцы ўжо не абмяжоўваюцца простым адлюстраваннем традыцыйнага нацыянальнага беларускага арнаменту. Яны перайначваюць яго, уводзяць элементы, падказаныя жыццём.

Цікавыя работы экспануюць настаўніца з Брэста К. Цяртычная, служачая А. Камарова і інш. Гэтыя вышывальшчыцы ўмела стылізуюць дэталі адзення, архітэктуры, шырока ўжываюць мастацкую сімволіку. Асаблівую ўвагу звяртае на сябе праца К. Цяртычнай «Дружба народаў», у якой яна паказала прадстаўнікоў розных народаў у сваім нацыянальным адзенні. Жаночыя сілуэты ўпэўненай рукой майстра выкананы лаканічна. Любоў, з якой мастачка працавала над гэтай вышыўкай, відаць ва ўсім: і ў падборы колераў, і ў малюнку, і ў кампазіцыі. І гэтая любоў і шчырасць мімаволі перадаюцца гледачу.

Выстаўка не толькі знаёміць гледачоў з самадзейным мастацтвам таленавітага беларускага народа, але дэманструе непахісную волю савецкіх людзей да барацьбы за мір, за светлую будучыню. ўсяго чалавецтва.

**Л. ДРОБАЎ.**

## У ЦАЛІННЫМ КРАІ

Тысячы кіламетраў можна праехаць з усходу на захад, з поўначы на поўдзень, і ўсюды будуць чарнець разараныя тлустыя гоні цаліны.

Другі тыдзень у Кустанайскай вобласці—самай вялікай у Цалінным краі знаходзіцца брыгада беларускіх пісьменнікаў. Рыгор Няхай, Навум Кіслік, Аляксей Пысін, Валянцін Тарас, Уладзімір Варно і Ігар Шкляроўскі пабывалі ў Кустанаі і маладым горадзе гарнякоў — Рудным і ўсюды сустрэлі самы цёплы і радасны прыём.

У Кустанаі пісьменнікі выступілі перад студэнтамі педагагічнага інстытута, медыцынскага тэхнікума, рабочымі швейнай фабрыкі «Бальшавічка», абутковай фабрыкі, сустрэліся з членамі камуністычных брыгад прадпрыемстваў горада, а таксама з калектывамі рэдакцый абласных газет.

У дзень адкрыцця XXII з'езда КПСС беларускія пісьменнікі выступілі на мітынгу гарнякоў Сакалоўскага басейна ў пасёлку Камсамольскім, прачыталі вершы аб Леніне, аб партыі, перадалі прывітанне рабочым камбіната ад мінскіх аўтамабілебудаўнікоў, якія забяспечваюць гарнякоў магутнымі аўтасамазваламі.

У горадзе Рудным беларускія літаратары сустрэліся таксама з будаўнікамі трэста № 2, студэнтамі індустрыяльнага тэхнікума, вучнямі школ, рабочымі, агледзелі Сакалоўскі басейн, дзе здабыча руды адбываецца адкрытым спосабам, рудадрабільную фабрыку, электрацеплацэнтраль, малады горад.

Тут на прамысловых прадпрыемствах і ў саўгасах працуе шмат нашых землякоў-беларусаў. Яны цікавяцца жыццём рэспублікі, яе працоўнымі поспехамі.

«Раскажыце нам, калі ласка, аб вашым маладым беларускім горадзе Салігорску»,—з такімі просьбамі звярталіся да гасцей гарнякі Руднага.

Студэнты Кустанайскага пединстытута, сярод якіх ёсць моладзь з Беларусі, перадалі палымянае прывітанне беларускім пісьменнікам і пажадалі ім далейшых поспехаў у творчасці.

За час паездкі многія рабочыя і студэнцкія бібліятэкі папоўніліся беларускімі кніжкамі, экземплярамі часопіса «Полымя». Цяпер беларускія пісьменнікі дзвюма групамі паехалі па саўгасах вобласці. Яны наведаюць паўднёвыя і паўночныя раёны, у тым ліку і саўгас «Мінскі», заснаваны нашымі землякамі.

«Палымянае прывітанне землякам!» — такімі словамі ўсюды сустракаюць пісьменнікаў нашы землякі, якія першымі адгукнуліся на заклік партыі і паехалі ў багаты Цалінны край—край вялікай будучыні.

**Р. НЯХАЙ.**

## На два мільёны тамоў

Новае пяціпавярховае кнігасховішча на два мільёны тамоў пабудавана для Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя Ул. І. Леніна.

Кнігасховішча аб'ёмам у 22 тысячы кубічных метраў—выдатны падарунак, зроблены будаўнікамі XXII з'езду КПСС. У новым корпусе адкрываюцца дадаткова яшчэ тры чытальныя залы для навуковых работнікаў. Яны будуць мець літаратуру па грамадскіх, фізіка-матэматычных, біялагічных, медыцынскіх і сельскагаспадарчых пытаннях. Тут жа размесціцца і зала беларускай кнігі.

Палепшыцца абслугоўванне чытачоў у галоўным будынку бібліятэкі. Ствараецца зала для малады́х чытачоў—вучняў старэйшых класаў і навучэнцаў устаноў прафесіянальна-тэхнічнай адукацыі, зала кніг па мастацтву, пашыраецца чытальня тэхнічнай літаратуры.

Неўзабаве пачнецца рэканструкцыя кнігасховішча галоўнага корпуса, у якім пасля заканчэння работ таксама зможа змясціцца да двух мільёнаў кніг.

# ПАЭЗІЯ І БЕНГАЛЬСКІ АГОНЬ

Людзі ўспрымаюць паэзію парознаму. Адны любяць, застаўшыся з кнігай, паглыбляцца ў кожную страфу верша, у кожны радок і слова, аддаючыся пад уладу думак і перажыванняў ад толькі што прачытанага. Другія маюць асалоду, калі слухаюць вершы з вуснаў самога паэта, у мастацкім выкананні артыста ці ў звычайным чытанні сябра. Уражанні ў тым і ў другім выпадку, вядома, будуць суб'ектыўныя: у кожнага чалавека — свае густы, сваё адчуванне эстэтычнага, свой узровень культуры. Аднак гэта зусім не азначае, што ў адным і тым жа творы можа знаходзіцца некалькі мастацкіх вартасцей. У кожным творы ёсць пэўная аб'ектыўная мера яго літаратурных каштоўнасцей, мера, якую не замаскіруеш самым выразным, самым эмацыянальным чытаннем, калі ўспрымаеш верш на слых. Даводзіцца ж часта расчароўвацца ў вершах, якія нібыта спадабаліся пры слуханні іх у добрым выкананні і да якіх застаешся халодным, абыякавым, калі з імі ўважліва знаёмішся. Высвятляюцца і прычыны гэтага, здавалася б, непаразумення.

* * *

У нас нярэдка спрачаюцца: добра гэта ці дрэнна, калі паэт натрапіць на адну сваю тэму і ўвесь час застаецца верным ёй. Некаторыя даводзяць, што дрэнна: гэта звужае дыяпазон творчасці, абмяжоўвае магчымасці шырока, ва ўсёй шматграннасці адлюстроўваць рэчаіснасць. Іншыя сцвярджаюць, што добра: паэт не раскідваецца, не распыляе сваёй увагі і, грунтоўна засяродзіўшыся на любімай тэме, мае мажлівасць сказаць у ёй важкае слова. Мы— за пісьменніка, які не рассыпае «гарох на дванаццаць дарог», за пісьменніка, які імкнецца развіваць сваю творчасць не ў шырыню, а ў глыбіню. Не кожнаму ж дадзена быць усёабдымным, рознабаковым мастаком, дык — лепш грунтоўнасць і глыбіня ў адной тэме, чым слізганне па паверхні і бездапаможнасць — у многіх.

...Дваццацігадовым юнаком прыйшоў у цэх «Гомсельмаша» Браніслаў Спрынчан. Праца прыйшлася па душы, спадабалася. Спадабалася своеасаблівай рамантыкай, усведамленнем таго, што вось тут, побач з табой, рукамі суседзяў і таварышаў па цэху, ствараюцца машыны, так патрэбныя працаўнікам вёскі. Радасна было, што і ты нешта ўносіш у гэтую работу, што і твой вінцік ці болцік стане на сваё месца ў адной з гэтых машын... Настрой захацелася выказаць у вершах. І вершы з'явіліся — у 1948 годзе першыя спробы пяра пачынаючага паэта-рабочага былі апублікаваны. Пазней, у 1957 годзе, з лепшага, што было надрукавана, Б. Спрынчан склаў і выдаў кнігу «Над кручами Сожа». Сёлета выйшла другая кніжка паэта — «В центральном пролете».

Пагартаеш першы зборнік Б. Спрынчана і адразу бачыш, што цікавіла маладога аўтара. «Куй железо, пока горячо», «Три нормы», «Токарь», «В цехе», «Кочегар», «Автоматчица», «Кузнечный зал», «Последняя смена», «Молодой автогенщик» — можна было б яшчэ прыводзіць з кнігі назвы вершаў, якія гавораць самі за сябе, паказваюць на іх тэматычную накіраванасць. Паэт пісаў пра тое, што добра ведае, пра тое, чым жыве. І тэма гэтая — просты рабочы, якому вельмі да спадобы яго праца, — зрабілася ўлюбёнай тэмай маладога аўтара. Яна дамінуе і ў зборніку «В центральном пролете», падкрэслена нават яго назвай.

...Як дзіцяці, што ўпершыню становіцца на яшчэ кволыя ножкі і няўпэўнена робіць першыя крокі, — нялёгка ўпершыню ісці і па літаратурнай сцежцы, нялёгка нават чалавеку, у якога ёсць талент. Але ж уважлівае вока мамы заўважыць, што малое стараецца ступаць смела, цвёрда, не баіцца ўпасці і не плача, калі ўпадзе. Першыя крокі паэта таксама шмат што кажуць пра сябе.

Зборнікам «Над кручами Сожа» Б. Спрынчан заявіў, што ў яго ёсць пра што расказаць чытачу. Веданне жыццёвага матэрыялу (мы б сказалі — улюбёнасць у яго) — ужо гэта сур'ёзны набытак чалавека, які наважыўся ўзяцца за пяро. Добра, калі гэта веданне і гэтая ўлюбёнасць спалучаюцца з пэўнымі літаратурнымі здольнасцямі. А такія здольнасці ў першай кнізе паэта выявіліся. Гэта адчуваецца і ў радзе лепшых, удалых вершаў паэта, і ў радзе строф і радкоў у вершах, якія ў цэлым ніяк не залічыш у творчы актыў аўтара.

Убачыць у штодзённым жыцці звычайную з'яву і сказаць пра яе па-свойму, па-мастацку вобразна — гэта і ёсць адна з першых адзнак умельства паэтычна ўспрымаць рэчаіснасць, паэтычна яе асэнсоўваць. Без гэтага, уласна кажучы, няма паэзіі, няма мастацтва.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

## У лабараторыях вучоных

# СТВАРАЛЬНІКІ НОВАГА

**На ціхай Падлеснай вуліцы Мінска, там, дзе цяпер выраслі новыя вялізныя карпусы, размясціўся Фізіка-матэматычны інстытут Акадэміі навук БССР, адна з важнейшых навуковых устаноў рэспублікі.**

**У лабараторыях ідзе напружаная навукова-даследчая работа. Інстытут працуе над праблемамі, якія непасрэдна звязаны з нашай прамысловасцю. Вучоныя абавязаліся як мага хутчэй даць прамысловасці новыя дасканалыя інструменты, ад прымянення якіх у многім залежыць павышэнне прадукцыйнасці працы.**

**...Эксперыментальная майстэрня лабараторыі новых метадаў апрацоўкі матэрыялаў нагадвае цэх станкабудаўнічага завода ў мініяцюры.**

**У вялікім светлым пакоі стаяць станкі — такарныя, фрэзерныя, свідравальныя. Тут праходзяць свае першыя выпрабаванні інструменты, створаныя рукамі вучоных і канструктараў.**

**Да апошняга часу працэс апрацоўкі цыліндрычных адтулін дэталей невялікай даўжыні займаў дзве-тры мінуты. Пры гэтым якасць паверхні была невысокай. Апрацоўка існуючымі метадамі выклікала павышаны знос дэталей. Патрабавалася распрацоўка новага працэсу і новага віду інструмента.**

**Над гэтай складанай задачай і пачалі працаваць загадчык лабараторыі кандыдат тэхнічных навук Я. Канавалаў і малодшы навуковы супрацоўнік Ул. Куляшоў, які робіць у навуцы свае першыя крокі. Іх творчая работа дала плённыя вынікі. Я. Канавалаў і Ул. Куляшоў падалі ідэю прымяніць ролікавы інструмент, але не звычайны, з восевай падачай, а поўнакантактны. Гэта значыць, каб даўжыня роліка была большай за даўжыню апрацоўваемай адтуліны. І падача цяпер была не восевай, а радыяльнай. У супрацоўніцтве з матэматыкам лабараторыі М. Каралёвым імі былі вырашаны тэарэтычныя праблемы, звязаныя з ролікавым інструментам.**

**У працэсе далейшых лабараторных работ канструкцыя была дапрацавана і адладжана канструктарамі і механікамі лабараторыі. Цяпер працэс апрацоўкі (машынны час) складае не дзве-тры мінуты, як раней, а чатыры-пяць секунд.**

**Так намаганнямі ўсяго калектыву лабараторыі быў створаны новы высокапрадукцыйны інструмент, так званая ролікавая раскатка з радыяльнай падачай.**

**Інструмент укараняецца ў прамысловасць і паказаў ужо добрыя вынікі на Мінскім заводзе аўтаматычных ліній.**

**Аб гэтым сведчыць дакумент, які беражна захоўваюць у інстытуце: «Калектыў Мінскага завода аўтаматычных ліній паведамляе, што распрацаваны лабараторыяй у гонар XXII з'езда КПСС інструмент для апрацоўкі ўнутраных адтулін дэталей тыпу ўтулак пры выпрабаваннях на заводзе паказаў станоўчыя вынікі.**

**Завод дзякуе супрацоўнікам лабараторыі за аказаную тэхнічную дапамогу».**

**— Падзяка і прызнанне рабочых і інжынераў,—сказаў дырэктар інстытута акадэмік В. Севярдзэнка,— вышэйшая для нас узнагарода.**

**Сваё новае, вельмі патрэбнае прамысловасці, вынаходніцтва супрацоўнікі лабараторыі новых метадаў апрацоўкі матэрыялаў прысвячаюць XXII з'езду роднай Камуністычнай партыі.**

**На нашым здымку вы бачыце Я. Канавалава (справа) і Ул. Куляшова.**

**Ул. ЛАЎРОЎ.**

Фота Ул. Крука.

## Прывітанне юбіляру

**Беларускаму пісьменніку Міколе Лобану споўнілася 50 год. Праўленне СП Беларусі паслала юбіляру прывітанне, у якім гаворыцца:**

**«ДАРАГІ МІКОЛА ПАУЛАВІЧ!**

**Горача віншуем цябе, нашага таварыша, сабрата па пяру, з 50-годдзем з дня твайго нараджэння.**

**Выхадзец з беднай сялянскай сям'і, настаўнік пачатковай школы ў даваенныя гады, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, студэнт БДУ, пісьменнік і навуковы супрацоўнік Акадэміі навук БССР — такі твой жыццёвы шлях, шлях адданага служэння свайму народу, нашай любімай сацыялістычнай Радзіме.**

**Выступіўшы ў пасляваенныя гады на літаратурнай ніве, ты праявіў сябе як здольны, удумлівы празаік, які глыбока ведае жыццё, мае багаты запас назіранняў і ўражанняў, з усёй сур'ёзнасцю авалодвае літаратурным майстэрствам. Твае апавяданні і нарысы, аповесць «Іркуцянка» трывала ўвайшлі ў фонд сучаснай беларускай прозы. З вялікай цікавасцю мы, як і нашы чытачы, сустрэлі надрукаваную ў часопісе «Полымя» першую кнігу задуманай табой трылогіі «Шэметы».**

**Глыбока цэнім мы цябе і як мовазнаўцу, які шмат робіць у галіне распрацоўкі пытанняў роднай беларускай мовы. Надзвычай прыемна нам, тваім таварышам, бачыць цябе зараз у росквіце творчых сіл.**

**Ад усяго сэрца жадаем табе, дарагі Мікола Паўлавіч, добрага здароўя, доўгіх год жыцця і далейшай пленнай творчай дзейнасці на карысць савецкага народа, у імя перамогі камунізма».**

# АД АПАВЯДАННЯ ДА РАМАНА

Імя Міколы Лобана ўпершыню мільганула ў друку больш трох дзесяцігоддзяў назад: яно стаяла пад апавяданнем «Веснавая радасць», надрукаваным у літаратурным дадатку да бабруйскага «Камуніста». Потым М. Лобан надоўга змоўк. У студзені 1946 года на старонках «Беларусі» з'явілася кароценькае, на тры старонкі, апавяданне «Дачка». Апавяданне гэтае, як кажуць, не рабіла надвор'я ў пасляваеннай беларускай навелістыцы, але яно было, бясспрэчна, цікавай, шматабяцаючай «творчай заяўкай» празаіка. Адчувалася імкненне пісьменніка раскрыць у вострым сюжэце нешта вельмі характэрнае ў гістарычным лёсе беларускага народа перыяду Айчыннай вайны. Пра вайну, пра трагічны лёс дзяцей, якія страцілі бацькоў і прытулак, М. Лобан без фальшу гаварыў у наступным сваім апавяданні «Сяргейка». Праўда, яно выйшла з-пад яго пяра з яўнымі мастацкімі недахопамі. Экспазіцыйная частка апавядання вельмі расцягненая, прычым зроблена гэта на шкоду яркасці і паўнаце паказу перажыванняў і ліхіх прыгод героя, хлопчыка Сяргейкі.

Самым, па-мойму, добрым апавяданнем М. Лобана з'яўляецца «Экзамен», у ім цікавы сюжэт і свежыя аўтарскія думкі. Пісьменнік тут адышоў ад тэмы папярэдніх твораў, звярнуўшыся да паказу таго, што выстаўлялася на чаргу дня мірным, пасляваенным часам. Гэта — гісторыя аб тым, як савецкі малады чалавек апярэдзіў свайго настаўніка ў набыцці тэарэтычных ведаў, у навуках. Два чалавекі нібы памяняліся ролямі: таленавіты вучань, стаўшы вучоным, ператварыўся ў экзаменатара свайго ўчарашняга школьнага настаўніка. Тут усё праўдзіва, цікава. Апавяданне заснавана на даволі вострым псіхалагічным канфлікце. Аднаго не хапала гэтаму твору: душэўны пералом героя, рэзкі ўнутраны паварот і пераход ад аднаго стану да другога, процілеглага, паказаны без дастаткова моцнай матыціроўкі.

М. Лобан звярнуў на сябе ўвагу крытыкі і чытачоў аповесцю «Іркуцянка», калі яна ў 1953 годзе выйшла асобным выданнем. Аповесць заслугоўвала такой увагі. Яна яскрава паказвала, наколькі ўмацавалася «мускулатура таленту» мала вядомага шырокай публіцы пісьменніка. Лобан зноў загаварыў пра тое, што нядаўна перажыў сам. Відавочнай аўтабіяграфічнасцю павявае ад лобанаўскага апавядання пра студэнта-філолага Аляксея Наскова, які, пакінуўшы універсітэт, у першы ж дзень нападу фашыстаў добраахвотна ідзе на вайну, становіцца сяржантам пяхоты, ваюе, атрымлівае раненне і, ачуньваючы, рвецца са шпіталя зноў у бой. Зразумела, цікавасць «Іркуцянкі» не ў элементах яе аўтабіяграфічнасці. Аповесць значная тым, што яна вобразна адлюстроўвае асобныя эпізоды з ваеннай «біяграфіі» цэлага народа. Аўтар імкнуўся ахапіць думкаю і замацаваць у карцінах і асобах вялікія па значэнню падзеі на фронце і ў тыле, даць рад непадобных людскіх характараў, выявіць гераічны, высока маральны пачатак у савецкім чалавеку, чысціню і высакароднасць яго пачуццяў, думак. За тым, што робяць у аповесці яе героі — студэнт Наскоў, падлетак Вася, беларускі калгаснік Стручкоў, буратка-іркуцянка Асланава або маладая санітарка Аня, мы беспамылкова ўгадваем вялікія справы, мужныя, патрыятычныя дзеянні народаў нашай Айчыны ў дні вайны.

«Іркуцянка» ўсё ж была далёкая ад мастацкай дасканаласці. Справа ў тым, што аўтар, нібы спяшаючыся ў сваім апавяданні ўсё наперад і наперад, іншы раз падмяняў паказ людзей і жывапіснасць карцін беглым пералікам таго, што адбывалася з яго героямі. Таму нават у галоўных дзеючых асоб няпоўна выяўлена іх індывідуальная прырода, рознабаковасць і багацце іх унутранага аблічча. Пісьменнік заведама пагарджаў такім сродкам раскрыцця характару, як партрэт героя, ад чаго некаторыя асобы атрымаліся плоскаснымі, без непаўторных жывых фарбаў і запамінальных дэталей іх знешнасці.

Пасля «Іркуцянкі» М. Лобан доўга маўчаў, не падаваў голасу, напэўна, гадоў восем. Маўчаў як пісьменнік, хоць плённа працаваў як вучоны-лінгвіст, які стварыў рад каштоўных прац у галіне беларускага мовазнаўства, у прыватнасці, па лексікалогіі.

І вось зусім нядаўна — сёлета ўлетку — на старонках «Полымя» з'явіўся раман М. Лобана «На парозе будучыні». Радасны не столькі сам па сабе прыкметны факт выступлення М. Лобана ў новым для яго жанры рамана, што служыць сведчаннем творчай смеласці і ў нейкай меры паказчыкам узроўню сталасці пісьменніка. Радуе высокая якасць напісанага ім, добрая эстэтычная вартасць новага твора.

Хто чытаў раман «На парозе будучыні», той ведае, што ён з'яўляецца толькі часткаю шырока задуманай Лобанам трылогіі пад адной назвай «Шэметы». Як паведаміў нядаўна аўтар у інтэрв'ю для газеты «Літаратура і мастацтва», ён намераны давесці расказ да нашых дзён. Пачатковай храналагічнай вяхой узяты шасцідзесятыя гады мінулага стагоддзя. Такім чынам, калі трылогія будзе дапісана, перад чытачом пройдзе жыццё людзей за цэлае стагоддзе, зменіцца не адно іх пакаленне. Гэта будзе сацыяльная і сямейна-бытавая хроніка. Ва ўсякім выпадку, іменна ў гэтых жанравых традыцыях вытрымана апублікаваная кніга трылогіі. Калі гаварыць пра асноўныя прынцыпы пабудовы гэтай кнігі, дык раман «На парозе будучыні» правамерна параўнаць з горкаўскай «Справай Артамонавых» Тут і там разгорнута мастацкая «гісторыя трох пакаленняў» за аднолькавы прамежак часу, прычым жывое «аблічча эпохі» раскрыта ў адным выпадку праз лёс прадстаўнікоў купецкага роду, у другім — на гісторыі сялянскай сям'і. Гаворка ідзе іменна пра агульныя прынцыпы і жанравую блізкасць, а не пра аднолькавую глыбіню і сілу «мастацкага асваення свету» ў названых творах.

М. Лобан паказвае герояў рамана не на фоне гісторыі, а ў іх жыццёвай сувязі з гістарычнымі падзеямі, у абумоўленасці лёсу кожнага з іх заканамернасцямі сацыяльнага быцця, рухам і развіццём грамадства, яго супярэчнасцямі і вострай барацьбою. Сваю задачу мастака М. Лобан, відавочна, бачыў у тым, каб пераканальна паказаць увесь жах і ідыятызм вясковага жыцця, увесь цяжар сялянскай працы, усю дзікасць і цемру быту беларускага селяніна і прасачыць абуджэнне сялянства да пратэсту, рост яго свядомасці ў эпоху парэформенную, перадрэвалюцыйную. І радаслоўная сям'і Шэметаў, імем якіх названа трылогія, пісьменніка цікавіць толькі ў той меры, у якой яна дапамагае вырашэнню гэтай галоўнай мастацкай задачы.

«Жыццеапісанне» пачынальніка шэметаўскага роду—Ільюка ўкладзена ў адзін невялічкі раздзел. Лобан стварае праўдзівы, яркі вобраз нявольніка па псіхалогіі, сляпога выканаўцы панскай волі, чалавека, які добраахвотна ўзяў на сябе ганебны абавязак — быць вартавым сабакам пры чужым дабры. Ніякіх мэт нажывы Ільюк не мае, ён зусім не падобны на кулака Сядуру. Не, ён толькі бездакорна нясе сваю службу. Гэтым ён абуджае да сябе лютую нянавісць сялян, такіх самых жабракоў і галодных, як і ён сам. Акалічнасці жыцця і склад характару прымусілі Ільюка стаць ворагам людзей, блізкіх да яго па сацыяльным становішчы. Ён зусім адзінокі сярод іх. Трагічны канец яго жыцця сацыяльна прадвызначаны. Сяляне, абуджаныя рэвалюцыяй да барацьбы супраць сваіх прыгнятальнікаў, забіваюць Ільюка. Гэтая сацыяльная і асабістая драма селяніна, які збіўся з тропу, раскрыта пісьменнікам гістарычна праўдзіва, з беспамылковай псіхалагічнай праўдай, хоць — зазначу дарэчы — не зусім ясная прычына, якая прымусіла кулака Сядуру быць ініцыятарам забойства.

Тое, што адбылося з Ільюком, павінна было неяк паўплываць на паводзіны і характар яго сына, Якава Шэмета, якому аўтар адвёў у сюжэце важную ролю. Якаў, як і нябожчык яго бацька, таксама спачатку служыць графіні Відацкай не з-за страху, а па сумленню. Ён так беражэ чужы лес, што нікому не прадаў ніводнай галінкі, а «сабе на дровы пянькі рэзаў». Вельмі добрая гэта маленькая мастацкая дэталь! Так, Якаў — сын свайго бацькі, у ім ёсць нямала ад Ільюка. Але жыве ён у іншы час — у перыяд паміж дзвюма рэвалюцыямі. У Якава ўжо няма бацькоўскай паслухмянасці да пані, няма і лютай жорсткасці ў адносінах да тых, хто краў лес. Ён баіцца сваіх аднавяскоўцаў, мякчэйшы ў абыходжанні з імі, больш згаворлівы. Служба лесніка пачынае яго прыгнятаць. У душы Якава расце незадавальненне графіняй, якая «па Пецярбургах ды па заграніцах валочыцца». Падобныя думкі ніколі не прыходзілі ў галаву яго бацькі. У канцы рамана, напярэдадні Кастрычніка, Якаў спрабуе перашкодзіць уцёкам пані з яе маёнтка, затрымаць яе, з нянавісцю крычыць ёй у твар: «Сука, не ўцякай, хлеб мой аддай!» Якаў гіне, але не ад рукі сялян, як памёр яго бацька, а пад цяжкімі коламі панскай карэты.

Старонкі рамана, якія расказваюць пра бацьку і сына Шэметаў, заслугоўваюць самай высокай пахвалы, належаць да ліку лепшых. Пра напад на Якава ў лесе, пра яго вар'яцтва, пра сустрэчы і гутарку ля кастра з Амелькам-Жартуном і пра апошнія гадзіны яго гаротнага жыцця — пра ўсё гэта напісана на дзіва ярка, моцна, гранічна скупымі сказамі.

Толькі што сказанае ў роўнай меры справядліва і ў адносінах да «нехлямяжнага прымака» Амелькі-Жартуна і вясковага кулака Цітка Сядуры — двух самабытных характараў, якія ні ў чым не падобныя адзін да аднаго, але аднолькава адыгралі злавесную ролю ў драматычным лёсе Шэметаў. Сюжэтныя ніткі больш або менш звязваюць гэтых дзеючых асоб — проста або апасродкавана — з такімі персанажамі, як Віктар і Іван Сядуры, Пракопава Параска, Кандрат Сарока, Хведар Семяняка, малодшыя Шэметы — злодзей Лукаш і прыслужлівы і бесхарактарны Мацвей, гарэзлівы, наравісты і дзёрзкі Андрэй. Стварэнню больш поўнай карціны жыцця беларускай вёскі ў перадкастрычніцкую эпоху закліканы дапамагчы вобразы сельскіх настаўніц Раісы Барташэвіч і яе сястры Ларысы.

У рамане М. Лобана звыш двух дзесяткаў герояў. Усе яны так або інакш уключаны ў адзіны ланцуг сюжэта, біяграфіі іх то скрыжоўваюцца, то шчыльна сутыкаюцца. Кожнаму з іх адведзена свая роля ў агульным патоку падзей. кожнага пісьменнік імкнецца выразна намаляваць, надзяліць глыбока індывідуальнымі ўласцівасцямі, асаблівасцямі мовы, складу характару і сацыяльнага аблічча. І немалой заслугай пісьменніка з'яўляецца тое, што ён здолеў прымусіць чытача з пільнай увагай і нярэдка з глыбокім хваляваннем сачыць за ўчынкамі, думкамі, перажываннямі, сутычкамі паміж сабою герояў рамана.

Не ўсё ў рамане да канца апрацавана, не ўсё матывавана. Справядліва папракнуць М. Лобана за тое, што не даказаў самага істотнага ў жыцці станоўчага героя рамана Кандрата Сарокі, іменна: нічога не сказаў пра яго франтавое жыццё, пра ўзаемаадносіны яго з бальшавіком Брагіным, калі яны абодва сядзелі ў акопах, аб ператварэнні звычайнага вясковага хлопца ў барацьбіта за Савецкую ўладу на вёсцы. Ды і сам Брагін не ясны чытачу, не бачны яму. Тлумачэнне для гэтага, відаць, трэба шукаць у тым, што раман «На парозе будучыні» апублікаваны ў часопісе са скарачэннямі, пропускамі некаторых сцэн і эпізодаў. Гісторыя замужжа Параскі не знайшла ў рамане псіхалагічнай абгрунтаванасці, тут ёсць пэўны фальш. Яўным меладраматызмам патыхае ад узаемаадносін Віктара і Раісы.

Гэта ніколькі не пярэчыць агульнай думцы пра раман М. Лобана, як пра твор вялікай жыццёвай праўды, глыбокага ідэйнага зместу і высокай мастацкай вартасці. Шырока развінулася поле зроку пісьменніка, свабодна і натуральна разгортваецца сюжэт, прадуманы дэталі кампазіцыі рамана, героі ў большасці дзейнічаюць па логіцы свайго характару. Цвёрда вызначылася ў рамане апавядальная манера Лобана, рысы якой угадваліся раней у «Іркуцянцы». Гэта — характэрная сціслаць пісьма, відавочная боязь шматслоўнасці і «квяцістасці» сказа.

Можна было б многае сказаць пра моўнае майстэрства Лобана, як яно выявілася і ў апавядальнай размове, і ў простых разважаннях герояў, вельмі жывых рэпліках, энергічных дыялогах, якімі стракаціць раман. Не выклікае сумнення адно: у рамане «На парозе будучыні» М. Лобан выступае сталым мастаком слова, вопытным апавядальнікам, таленавітым празаікам.

**Ф. КУЛЯШОЎ.**

